

**На Кубе карнавал — вялікая рэвія тэмпераменту.**

# ЗВЫШСІЛЬНЫЯ ЛЮДЗІ

Доследы псіхолагаў сведчаць аб тым, што органы пачуццяў сучаснага чалавека валодаюць сродкамі, якія перавышаюць у дзесяткі, сотні, а часам і ў тысячы разоў агульнапрынятыя меры. Напрыклад, некаторыя мастакі здольныя згледзець ухіл у прапорцыях 2-ух параўноўваемых прадметаў, калі ён не перавышае адной тысячнай іх велічыні. Вопытныя тэкстыльшчыкі разрозніваюць каля сотні адценняў чорнага колеру. Лётчыкі адчуваюць 3-працэнтныя адхіленні ліку абаротаў маторнага вінта. Наогул вядомы таксама здзіўляючыя доследы апошніх год у галіне «скурнага зроку».

Многія ведаюць, што нармальны чалавек у час нервовай узбудлівасці можа здзейсніць звышчалавечы пастулак. Баронячыся ад раз'юшаных сабак, людзі пераскаквалі трохметровыя перашкоды, прабуючы ўцячы з турмы, гнулі жалезныя пруты кратаў і г. д.

Нядаўна вучоныя ўстанавілі, што так гвалтоўнае ўсіленне фізічных сіл чалавека звязана з дзейнасцю мозга. У крытычных выпадках ён пасылае мускулам камандныя сігналы павышанага ўзроўню. Але такія выпадкі вельмі рэдкія. Наогул мозг высылае мускулам сігналы сярэдняга ўзроўню.

Амерыканскія біёлагі Эліс і Шнейдэрмайэр запрапанавалі метад, пры дапамозе якога можна штучна павялічыць фізічную сілу чалавека. Каманды, якія ідуць ад мозга да мускулаў, па дарозе перахопліваюцца і ўсільваюцца пры дапамозе партатыўных паўправадніковых узмацняльнікаў, убудаваных у арганізм чалавека.

Амерыканскія ваенныя плануюць, што такі метад дазволіць стварыць звышсільных салдат.

*на шырокім свеце*

# Там, дзе нафта і атам

З Гардайі, праз Эль-Галеа, едзецца ў Гагар. Другая дарога — праз Аўарглю — вядзе ў горы Тасілі.

Абедзве дарогі лёгказапальныя. Адна праходзіць праз Рэган. Там французы праводзяць пробы са сваімі атамнымі бомбамі. Другая шаша праходзіць праз Хасі Месу. Там французы шукаюць нафты. Дзве дарогі. Дзве фірмы і адзін банк, які ўсё фінансуе. Тут, як кажуць, нічыя зямля. Дзікі захад усім шукальнікам золата. Але тыя, што кажуць аб нічыёй зямлі, моцна памыляюцца. Калі галы жэрлі яшчэ сырое мяса — тут квітнелі гарады. Калі кельты і візыготы жылі на дрэвах — тут будаваліся дарогі. 1400 кіламетраў на поўдзень ад Гардайі знаходзіцца найстаражытнейшая і найвялікшая галерэя карцін на скалах. Барэльефы так вялікія як Эйфелева вежа ў Парыжы — гэтым горадзе старажытных галаў. Фрэскі дваццацікіламетравай даўжыні. Як жывыя — чароды буйвалаў, сланоў і жыраф. Стройныя дзяўчаты чэшуць валасы. Закаханыя абдымаюцца — іх пацалунак трывае ўжо сем тысяч год. Ваёўнікі імчацца чатырохконнымі вазамі. Танцоркі з птушынымі галоўкамі. Паляўнічыя з лукамі і калчанамі — акамянелае сведчанне загінуўшага свету, чароўнае мастацтва мастакоў без прозвішча. Паўміралі сем тысяч год таму назад. Пад фрэскамі подпісы, далікатныя іерогліфы берберскай мовы. Гэтае пісьменства называецца «ціфінар», мова — «тамашэк». Тамашэк ужываецца па сённяшні дзень. «Ціфінарам» пішуць туарэгі Гагару і Тасілі. На гэтай «нічыёй» зямлі людзі ад сямі тысяч год умеюць пісаць і чытаць.

Аўаргля — гэта сметнік. На сметніку расце 200 тысяч фінікавых пальмаў. Пахнуць ружы, а сярод ружаў іржавеюць жалезныя трупы. Гэта могілкі машын — кадзілякі, мерседэсы, берліты, лейланды, шусоны, цыстэрны, трактары, бульдозеры. Пагнутыя сталёвыя пліты — ахвяры нафтавай гарачкі. Тысяча машын мусіць зіржавець, пасці, каб выпрыснуў хоць адзін нафтавы фантан. І дзесяць тысяч людзей. Далёка на поўначы горы Аўрэсу, усеяныя магіламі з часоў вайны за незалежнасць. Там спачылі мужчыны, якія баранілі скарбаў сваёй роднай зямлі. За тое загінулі.



**На здымку: маладая берберка.**

Аўаргля — гэта скрыжаванне аазіса і Тэхсасу. 15 год таму назад была сталіцаю сахарскай малярыі. Сёння няма камароў у Аўарглі. Нафтавым пралетарыям нельга памерці заўчасна.

Аўаргля ў пэўным сэнсе як бы знаходзіцца па-за сілаю алжырскай улады, як бы экстэрытарыяльная. На аэрадроме сярод пясчаных пагоркаў і жоўтых пірамідаў прызямляецца каравела. З гэтага цудоўнага самалёта выходзяць панове ў некамячачыхся касцюмах, дамы шаўковыя і дыяментавыя. Гэта каравела нідзе па дарозе не затрымлівалася. Увесь нафтавы бізнес як бы экстэрытарыяльны. Нафтавікі маюць сваю авіялінію Парыж — Аўаргля. Алжыр належыць алжырцам. Нафта — нафтавікам, акцыянерам.

Сто кіламетраў далей знаходзіцца Хасі Месу. Хто штосьці значыць на гэтым свеце — едзе туды машынаю. Хто нічога не значыць — ідзе пехатою сам або з караванам праз пясчаныя горы. Але бедныя і багатыя падарожнічаюць туды толькі ноччу. Удзень — горача. Неба чырвонае, як кроў. Бляск Хасі Месу відаць на трыста кіламетраў. Указальнікі на дарогах непатрэбны. Там палыхае дваццаць нафтавых капальняў, палыхае гіганцкае полымя на славу даходу і карысці. Усюды сталёвыя рыштаванні, лес цыстэрнаў, павуцінне труб, хмары ізалятараў, раскірачаныя мачты, а пад імі горад бляшаных баракаў. Тут жывуць рабочыя - нафтавікі. Яны размаўляюць па-арабску. На кіламетр вышэй — жывуць інжынеры і дырэктары. Яны размаўляюць па-французску. Калі горад «угары» хоча паразумецца з горадам «унізе», клічуць перакладчыка...

У Хасі Месу жыве не больш чым тузін жанчын. На дзікім усходзе, як і на дзікім захадзе, пануе мужчына. Тут і там, у нейкім кліматызаваным бары гаспадарыць нейкая «кліматызаваная» барманка. Яна халодная да мужчын, ніякая і ўсе б'юцца за яе. Як за нафту. Як за грошы. Як у Хасі Месу...

**(а-ся)**

— паводле «Кантынентаў»



**На здымку: паселішча ў пустыні. Тут пясок усюды. Сярод пясчаных пагоркаў — пальмавыя гаі і купуластыя, ахоўныя дахі дамоў.**

• Аляксей Карпюк •

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**У Ліпніку нас ужо чакаюць.**

**Алёшка Яроцкі прывёз цэлую фуру 76-міліметравых снарадаў, склаў пірамідкай. Яшчэ прывёз са Скраблякоў навабранцаў — Грышу Налівайку і Сашу Янкевіча. Абое трымаюць паміж калень дзесяцізарадкі СВТ з самаробнымі прыкладамі, як госці, ля вогнішча разглядаюцца. Люба таксама вярнулася не з пустымі рукамі. Абое спадзяваліся здзівіць нас, цяпер разумеюць, што ў параўнанні з выправай у Каўняны іхнія поспехі нішто. Люба з Яроцкім прагна ловяць урыўкі нашых узбуджаных фраз.**

**Падвечар на веласіпедзе падкатвае Міцька. Збіраемся хваліцца, а ён упікае:**

**— Усё ведаю. Адразу здагадаўся, чыя работа!**

**— Нават да Грабаўцоў дайшло?**

**— Пачакай, радавацца няма чаго. Вы, сабакі, застрэлілі там свайго чалавека! На цэлыя Каўняны быў адзін сумленны хлопец, і таго забілі...**

**Нашы твары выцягваюцца.**

**— Я-ак?**

**— Чорт вас ведае як!**

**Акрамя солтыса, там загінуў яшчэ фурман і той дзівак, якому прыспічыла з немцамі выпіць. Каторы з іх Міцькаў знаёмы?**

**— Думаеш, ты разабраўся б у той час, хто вораг, а хто прыяцель?! — бурчыць Косця.**

**— І разабраўся б! Каб быў там, то гэтага не здарылася б, будзьце пэўны!**

187

**— Хто табе перашкаджаў? Нябось, сам не захацеў брудзіцца, мэнтнуў да Вайцяхоўскага!**

**— Ці не вы мяне пасылалі ў леснічоўку?**

**— У праклятай вёсцы нават носа не было калі высерці, увесь час так і глядзі, каб з-за вугла не запусцілі ў цябе дыск з «Дзегцярова!»**

**— Найлепш пальнуў у першага, хто падвярнуўся пад руку, і годзе?**

**— Міцька, там разбірацца вельмі не было калі! — пераконвае і Кардаш. — Ды наогул, хлопцы, сваркай чалавека не вернеш з таго свету!**

**Я, камандзір, вінаваты найбольш, сяджу — нібы вады ў рот набраў, баюся, каб не чапілі мяне. Хвіліну маўчым.**

**— З партфелем што? — спрабую адцягнуць увагу.**

**— Ноччу прыйдзе чалавек, забярэ ў Гуту...**

**Размова не клеіцца. Нават Люба, Алёшка, скрабляцкія навабранцы адчуваюць сябе вінавата, не адважваюцца ўзняць на нас вочы.**

**— Вайна, — уздыхае камісар. — На вайне трапляюцца і нешчаслівыя выпадкі, што зробіш...**

**— Апраўданне знайсці мо-ожна! — з горыччу махае рукой Міцька. — Толькі ж так, хлопцы, доўга не наваюеш!**

**Зноў маўчанне, нібы на хаўтурах. Абняўшы калені, сумна глядзім у вогнішча. Разгарачаны Міцька абапіраецца адной рукой на руль, другой на сядло, глядзіць сабе пад ногі.**

**— І трэба ж было налезці пад руку якраз, от жа лёс чалавека! — паціскае плячыма Косця.**

**— А каторы з іх твой знаёмы? — вінавата пытаецца Сашка.**

**Міцька не адказвае.**

188

**— Фурману трапіла сляпая куля, — пачынае ўспамінаць камісар. — Солтысіха, сцерва, уцякла, хоць я цэлы дыск змарнаваў на яе! А той, каторы выпіваў з намі... — узнімае вочы на Кардаша.**

**— Ускочыў я ў сені, — тлумачыць Сашка, — і гэты тып нырае за мной! Я ў дзверы, ён у дзверы, закліналі праход! Ён здаравейшы за мяне, так і павалок за сабой. Мой кулямёт настаўлены на вуліцу, бо спадзяваўся, што самаахоўшчыкі пачнуць паліць па нас! Спуск узведзены, дзівак зачапіў кішэняй за дыск, сталі тузацца, чарга так і секанула яму ў грудзі, ён адразу абмяк! Чорт нанёс якраз!**

**— «Нанёс якраз», а чалавека няма! Дзеці, да зброі дапалі... Ану вас, рабіце, што сабе хочаце! — з вышыні свайго двухметравага росту начштаба зняважліва азірае нас, безнадзейна махае рукой, скача на веласіпед, знікае.**

**Зноў павісла няёмкае маўчанне.**

**Прыбягае бацька.**

**— Хлопцы, вы тут спакойна выграваецеся, вылежваецеся, нічога не чуеце, што робіцца на свеце! — нападае на нас.**

**— ?!.**

**— То ты нічога не ведаеш? У-у-у-у, а яшчэ і камандзір! Г... ты, а не камандзір пасля гэтага! У цябе павінна быць наладжана разведка спраўна, павінен усё наперад ведаць, яшчэ і бацьку сказаў бы, а не пытаўся б!**

**— Не цягні, кажы хутчэй!**

**— І скажу, паслухай! У Каўняны сёння прыйшло аднекуль мо з полк нашых. Колькі яны наклалі немцаў, прадажнікаў — ніхто і палічыць не здолее! Машынамі немцы сваіх вывозяць! Паўслухайцеся пайдзіце, што людзі па хатах гавораць, гудзе ўсюды, як вуллях!**

189







— Глядзі, Пецька, тэлевізар!

### АЎТАРЫТЭТ

— Гэта я трымаю аўтарытэт начальства, — гаварыў стары Дубовы Стол. — Да мяне многія баяцца і блізка падыходзіць, асабліва, калі начальнік па мне кулаком грукае.

Фанабэрыўся Стол, толькі не ведаў, што жыве ў ім чарвяк зазнайства, які точыць і точыць і без таго слабае яго нутро.

Хутка начальніка змянілі, а Стол — на дрывотню выкінулі. І там да яго ніхто не падыходзіць.

— Што ж, — думае Дубовы Стол. — хоць я і валяюся сярод гэтых чурбакоў, якія прыгодны толькі на дровы, але аўтарытэту не страціў. І тут мяне ўсе баяцца — бач, не падыходзяць.

**Зм. Ш-ка**

### КІРАЎНІК

— Ці я застала пана кіраўніка?

— Для жанчын — кіраўнік ёсць заўсёды. Каго маю далажыць?

— Жонку...

### ГАЛОЎНАЕ

Стары цырульнік настаўляе вучня, які рыхтуецца галіць першага ў сваім жыцці кліента:

— Будзь асцярожны, Міхась. Галоўнае, глядзі не парэжся.

### НАВОШТА

— Навошта ты паўтараеш плёткі?

— А што ж мне рабіць, калі я сама не ўмею выдумліваць?



Людзі часта губляюць галаву. Капялюш — радзей.

### ПАЧАКАЙЦЕ

— Мне вельмі балюча, але я павінен паведаміць вам, што гадзіну таму назад ваш муж сканаў на працы.

Яна працягвае спакойна абедаць.

— Вы, напэўна, не дачулі... Ваш муж памёр!

— Чую! Чую! Пачакайце, вось я закончу абедаць, тады вы ўбачыце, якая са мною будзе гістэрыка...

## ЭСТРАДА

— Людзі шаноўныя! Не прывязуць нам культуру ў мяшку, не высыплюць яе і не скажуць: карыстайцеся, весяліцеся, разумнейце! — сказаў Кастусь.

— Не прывязуць, — пацвердзілі сабраныя.

— Таму мы самыя павінны падумаць, як у нашай вёсцы засадзіць пахілае дрэўца культуры, — гаварыў Кастусь.

— Вырасце. Будзем падліваць, — паабяцаў хтосьці з сабраных.

— Ого, гэта напэўна, — згадзіўся Кастусь. — Падліваць, заліваць, наліваць, папіваць, ёсць у нас на гэта майстры над майстрамі. Прапаную арганізаваць эстрадны калектыў. Гарманіст наш на сто дваццаць басоў. мандаліна казыча вуха, гітарыст не ўдарае пальцам у балота. Вось і будзе аркестр на сто два, і салісты не абы-якія. Галя заспявае песню, Міхась пратрэпле танец, а потым зробім конкурс — гадан-ку, і з каштоўнымі ўзнагародамі. Толькі адкуль возьмем узнагароды, га? — Кастусь задумаўся.

Цішыню перарваў голас дзеда Макара:

— На першую ўзнагароду, карову!

— Эгэ, высока цэлішся, хто ж купіць карову на ўзнагароду, — закрычала якаясьці баба.

Дзед устаў са свайго месца і загаварыў:

— Нашто купляць яе. Культура павінна ўсіх нас датычыць. Для дабра культуры я пастараюся і падару карову.

— Ах! Ой ты, Макар, пад'ехаў, загаварылі сабраныя.

— Ад імя вёскі дзякую табе, Макар, — казаў Кастусь.

— На другую ўзнагароду будзе свіння, — азваўся Макар. Добрая будзе, харошая.

— Вось ты, дзед, размахнуўся, — хвалілі ўсе дзеда. — Сам ты, дзед, усіх нас выручыў, нават да голасу не падпусціў.

Дзед Макар усміхаўся задаволены пахваламі.

Кастусь гаварыў:

— Дазвольце мне назначыць конкурсную камісію і на гэтым зачыніць наш сход.

Праз два тыдні адбыўся эстрадны канцэрт.

Ніколі не было ў святліцы такой масы народу. Кожнаму было цікава, хто дастане карову.

Кандыдаты конкурса адпадалі адзін за другім, чырванелі, сыходзілі са сцэны. Але Федзя, сын Антона, упэўнена адгадваў усе конкурсныя загадкі.

Людзі казалі:

— Гэты хлопец дастане карову і мо, свінча нават.

Надышоў урачысты момант. Кастусь паказваючы на Федзю, аб'явіў:

— Камісія прызнала першую ўзнагароду Федзю, які адгадаў усе загадкі. Вось яны:

Стаіць кусаецца, кожны з яго частуецца (чайнік).

Пуд прададуць, а фунта не купіш (соль у ГС — Міхалова).

На пары коней едзе, але далёка не заедзе (двоечнік у школе).

Чаму многа манет з партрэтам Касцюшкі, а мала з Капернікам (начальнікі больш патрэбныя, чым вучоныя).

Ідзе наперад, а стаіць на месцы (гадзіннік).

Выпусціш з рук, весь край праляціць, а сваю хату знойдзе (пісьмо).

Кастусь гаварыў далей:

— Другую ўзнагароду прызналі Галі. Прашу іх уручыць.

Дзед Макар закруціўся на месцы, падышоў і паставіў на стале карову на калёсіках і выразаную з вярбы свінню з ружовым лычом.

Кастусь астаўбянеў, а ўсе зарагаталі.

*Дзядзька Лявон*

### ГАРЭЛКА

Спачатку ён яе цягне,
Потым яна яго...
А ўсім вядома да чаго.

**Мітрафан Калыска**

### НІЧОГА

— Прафесар, — устрывожана звяртаецца маладая асістэнтка да славутага хірурга, — для аперацыі ўжо ўсё гатова, а хворага яшчэ няма.

—Гэта нічога, — рассеяна адазваўся хірург. — Мы можам пачаць і без яго.

### АПАЛОНІКА

Маладому ўдаўцу кожная дзяўчына можа быць жонкай.

*

За шчаслівым чалавекам ходзіць шчасце.

*

Злодзею на волі свярбяць рукі... без кайданкаў.

*

Настуха Міхася валкам розуму вучыць.

*

Прыгожая дзяўчына заўсёды мае з кім танцаваць.



Без слоў.



— Алё! Алё! Чаму няма гарачай вады?




### УЗНАГАРОДЖАНЫ ЗДЫМАК

**Пад канец года, на традыцыйных конкурсах і выстаўках, праводзіцца выбар найлепшых фотарэпарцёрскіх здымкаў. На апошняй сусветнай выстаўцы прэсавай фатаграфіі першае месца заняў здымак сабакі ў кампаніі сланоў.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ліды Іванюк з Трашчотак, Валі Грыц і Галіны Тарасевіч з Юшкавага Груда, дзяўчат з Пухлаў Валі Анішчук з Масева, Валі Раманчук з Альхоўкі, Мікалая Сухадолы, Васі Харкевіча са Слабодкі, Марысі Гаўрылюк і Грышы Карпюк з Чыжыкаў змяшчаем беларускую песню п. з.

## ЗАКРУЖЫЛА МЯЦЕЛІЦА...



Закружыла мяцеліца белая —
Снегам вуліцу ўсю замяло.
Ля акна цэлы вечар сядзела я —
Неспакойна на сэрцы было.

Запалалі агні электрычныя,
А мой мілы усё не ідзе.
Слоў на вецер кідаць непрывычны ён, —
І мяне мілы не падвядзе.

Дык чаго ж я гадаю, самотная...
Пакуль бляск ясных зор не патух,
Выйду, выйду хутчэй за вароты я
І на вуліцы снег размяту.

Размяту ды расчышчу дарожаньку,
Дзе сумёты ля хатаў ляглі,
Да мяне каб чаканага ножанькі
Скора, скора і лёгка ішлі.